# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапіс, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Мэтрапалітальны пл. 3/12.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 19 лістапада 1932 г. № 32 (62)


## 50-лецьце Якуба Коласа.

Сёлетні год багаты на юбілеі: улетку выпала пяцьдзесятгодзьдзе Янкі Купалы, цяпер — 3 лістапада — мінуў 50-ты год *Коласу*. Але трэба адзначыць, што сёлетнія юбілеі маюць характар ня гэтулькі літаратурны, колькі — асабісты. І ў пяцьдзесятгодзьдзе нарадзінаў Коласа мы будзем гаварыць аб яго грамадзкай працы: як поэта, ён меў ужо свой трыумф у сувязі з 25-лецьцем поэтыцкае творчасьці, якая і была ў свой час шырака асьветлена ў прэсе. Дык будзем гаварыць сягоньня аб Коласе—чалавеку, Коласе—беларусе, Коласе—пэдагогу.

Каб тварыць такія літэратурныя цэннасьці, якімі здабыў сабе славу усенародную Колас, трэба было *мець у душы сваей* гэтыя скарбы: духовая веліч, глыбокі гуманітарызм, укаханьне Бацькаўшчыны, — вось характэрныя рысы Коласа, як чалавека і беларуса. Для выяўленьня іх Колас знайшоў высока-мастацкую вопратку і, апрануўшы ў гэту вопратку, аддаў іх свайму народу. Мала гэтага: тое, у што верыў Колас, што лічыў важным і цэнным, да зьдзейсненьня чаго імкнуўся ў душы сваей, — тое ён сам-жа і *рэалізаваў*. У дні вялікага рэвалюцыйнага ўзварушэньня 1905 году, якое — разам з усімі народамі Расеі — захапіла і беларусаў, Колас прыняў чыннае ўчасьце ў барацьбе за вызваленьне беларускага селяніна й работніка з-пад улады маскоўскага царызму. Як сябра Беларускае Соцыялістычнае Грамады, ён разам з апошняй пэражываў мамэнты высокага захапленьня барацьбой, а пасьля — мамэнты дэпрэсыі, прыгнечаньня, калі Рэвалюцыя была здушана. Але Колас ніколі не ўпадаў на духу, ніколі не апускаў рук у працы: ён ведаў, што не адным фізычным змаганьнем перамагаюць паняволеныя народы сваіх валадыроў, але перад усім — *творчай культурнай працай*. І Колас, калі апала хваля Рэвалюцыі, з такім самым запалам і захапленьнем працаваў для беларускае культуры, ведаючы, што без такое працы беларусы ніколі ня стануцца народам — нацыяй у шырокім разуменьні гэтага слова. А за першую задачу сваю, як вучыцеля па прафэсіі, за першую задачу ўсіх сваіх калегаў па фаху, якіх Колас стараўся ўсьведамляць нацыянальна, ён лічыў *здабыцьцё беларускае школы*. Прыняўшы ўчасьце ў патайным зьезьдзе настаўнікаў-беларусаў, які ў 1906-м годзе адбыўся ў Вільні і паклаў пачатак Беларускаму Вучыцельскаму Саюзу, Колас пачаў арганізоўваць сваіх калегаў-зямлякоў і ў роднай Мікалаеўшчыне заснаваў аддзел Саюзу. За гэту працу, як „крамольную", расейскі суд пакараў Коласа трох-гадовай вязьніцай...

Колас стойка дзяржаўся падчас арышту і сьледзтва, пасьля якога быў часова зьвольнены да судовае расправы. Вось у гэтым часе Колас ня толькі не апусьціў рук ад пэражытае няўдачы, але, наадварот, з усей энэргіяй узяўся за *арганізаваньне першых — патайных — беларускіх школ*. Узімку 1906—7 г. г. вядзе ён гэткую школу ў Мікалаеўшчыне, маючы 12 вучняў; у наступным годзе арганізуе беларускую школу ў двары Гордзялкоўскіх у Магілёўшчыне, дзе ўласьнікі двара спагадалі ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня. Адначасна складае беларускі школьны падручнік —„Другое чытаньне", які пасьля й надрукавала ў Пецярбурзе беларуская выдавецкая суполка „Загляне сонца і ў наша ваконца". І толькі пачатак адбываньня вастрожнае кары, прысуджанае ў верасьні 1908 году, адрывае Коласа ад гэтае працы.



Вастрог на тры гады адарваў Коласа ад актыўнага грамадзянскага жыцьця, і ў гэтым часе ён — за кратамі — рабіў тое, што там было магчыма: пісаў свае цудоўныя вершы, якія пасьля былі надрукаваны ў зборніку „Песьні Жальбы".

Выйшаўшы на волю, Колас перш бадзяўся нейкі час бяз працы, але пасьля быў прыняты за настаўніка ў расейскую ўрадавую народную школу. Як настаўнік, ён і працаваў пасьля доўгія гады, але — на чужыне, у Куршчыне. Сумаваў тамака, тужыў па Бацькаўшчыне, ды ўсё-ж ня губляў веры ў сваё сьвятое дзела, за якое так цяжка пацярпеў. Усьсяж творачы,—хоць на чужыне тварыў наагул ня шмат, — Колас ждаў таго дня, калі здолее вярнуцца ў свой Родны Край. І вера ягоная споўнілася: у 1921 годзе ён вярнуўся ў той мамэнт, калі беларуская ідэя затрыумфавала, і тое, аб чым лятуцелі пятнаццаць гадоў перад тым беларусы-конспіратары ў сялі за касьцёлам сьв. Мікалая ў Вільні, дзе адбываўся ўспомнены патайны настаўніцкі зьезд, — тое сталася дзелам. І ў наступныя гады на долю Коласа выпала шчасьце бачыць, як на зямлі Беларускай выраслі тысячы беларускіх народных школ, дзесяткі гімназіяў і тэхнікумаў, як будаваўся Беларускі Унівэрсытэт у Менску і іншыя вышэйшыя школы, як тварылася Беларуская Акадэмія Навук. Да ўсей гэтай творчай працы і Колас прыкладаў сваю руку, а ў Акадэміі Навук займае сягоньня пачэснае месца.

Праўда, пэўне і шмат цяжкога прышлося пэражыць за апошнія гады Коласу, гледзячы, як сталінаўскія агенты пачалі паход проці беларускае культуры й беларускага народу, зьнішчаючы і разганяючы па ўсей Расеі беларускую інтэлігенцыю, дэнацыяналізуючы цэлыя адвечна беларускія акругі (Койданаў!). Але Колас бачыў, як *тварылася* тое, што цяпер разбураецца, — бачыў, захапляўся гэтым і ў часе між 1921 і 1928 гадамі працаваў на літэратурнай ніве найбольш плодна, даў найвялікшыя свае поэтыцкія творы. „Новы курс" Сталіна прыглушыў і ліру Коласа, але — *не заглушыў*. І Коласаўскі талент ня толькі не заняпаў, але ўсьцяж разьвіваецца і дае новыя цэннасьці, хоць мусіць адбіваць новыя зьявы ў навакольным жыцьці — зьявы, мо' не заўсёды прыемныя для гэтага прадстаўніка векавечнае цягі да зямлі беларускага селяніна.

Хай-жа на доўгія йшчэ гады хопіць нашаму песьняру сілы да працы, бо творчая думка ягоная і жывасьць пачуцьця — не старэюць, ня вычэрпываюцца, не слабеюць. Гэтага жадаем Коласу у дзень яго паўвяковага юбілею.

**А. Н.**

## Жыцьцё Польшчы.

### Эндэцкія выступленьні.

На ўгодкі леташніх пагромаў жыдоў, з'арганізаваных студэнтамі эндэкамі ў Вільні і іншых местах, і сёлета эндэкі наладзілі падобныя выступленьні нацыяналістычна настроеных студэнтаў у Пазнані, Варшаве, Львове. Асабліва вострую форму мелі разрухі ў Львове. Паліцыя энэргічна ліквідавала выступленьні пагромшчыкаў.

Характэрна, што эндэцкія павадыры выбралі час для сваей пагромнай акцыі якраз у тыя дні, калі Польшча сьвяткуе дзень адбудовы сваей дзяржаўнай незалежнасьці.

### Польскія цукроўнікі рыхтуюць цукер... для сьвіней і каней.

Сярод польскіх цукроўнікаў паўстала думка дабіцца ад ураду дазволу пашырыць продукаваньне цукру, але з тым, каб... папсаваўшы яго смак так, што яго не маглі-б спажываць людзі, пусьціць яго на ўнутраны рынак у вялізарных масах дый па вельмі нізкай цане, як корм для сьвіней і коняў...

Правадыры цукроўнікаў ужо рабілі досьледы, скармліваючы цукер жывёле, і знайшлі, што 1 кіл. цукру дае каню гэтулькі-ж сілы, як 3 кілягр. аўса, дый што сьвіньня, якая была кормлена цукрам, дае найлепшыя шынкі—для вывазу заграніцу. Пры 4 мільёнах каней у Польшчы можна было-б выробляць па 100.000 кіл. у дзень цукру, што паднялo-б дабрабыт... цукроўнікаў на нябывалую вышыню... Дык аб'яднаныя цукроўнікі, якія наагул маюць вельмі значныя ўплывы ў Польшчы, пастанавілі зьвярнуцца да ўраду, каб звольніў цукер, назначаны на кармленьне сьвіней і каней, ад скарбовай аплаты...

4 мільёны каней маюць атрымаць кармавыя „пайкі" таннага цукру... Ня ведама, колькі сьвіней у Польшчы будуць мець так сама танную салодкую і пажыўную ежу... Але-ж у Польшчы яшчэ, апроч мілых гуманнаму сэрцу паноў цукроўнікаў сьвіней і каней, ёсьць звыш трыццацёх мільёнаў і людзей... З іх—пэўне-ж—дзесяток-другі мільёнаў, асабліва на вёсцы цяпер, у часе крызісу, ня нюхае дый ня бачыць навет цукру. Дык — чаму-ж бы не спрабаваць сьпярша даць танны цукер ім, не псуючы яго смаку, а пасьля ўжо апекавацца сьвіньнямі ды конямі?! Можа-б і гэта ня горш „калькулявалася" паном цукраварам-абшарнікам...

### Страшная катастрофа ў Варшаве.

Надовячы ў Варшаве завалілася вялікая камяніца, у якой быў зложаны вялікі запас ячменю. Уся сьцяна і маса ячменю зваліліся на суседні драўляны дамок, у якім забіты на сьмерць 18 асоб, спаўшых падчас катастрофы. Шмат такжа параненых.

## З жыцьця ў Б. С. С. Р.

### Бабруйшчына—55%.

Як падае „Савецкая Беларусь" з 4.XI. 32г., Бабруйшчына плян збожазагатовак выканала толькі на 55%. Належнае збожа з кулацка заможных гаспадарак не спаганяецца з належнай упартасьцю. Кулакі, карыстаючы палёгкамі з боку Сельсавету, разбазарываюць на прыватным рынку збожа. Ня рэдкія выпадкі, калі ў Бабруйску на рынку прадаецца жытняя мука па 90 руб. за пуд. Вось якім чынам вырываецца прыватны пачын з дзяржаўных савецкіх абцугоў.

### Ніяк ня хочуць даваць бульбу.

Цікава, што, як падае „Савецкая Беларусь" з 29. X. 32 г., на запатрабаваныя 191 тысяч тон. бульбы для Ленінграду Беларусь дала толькі 50 тысяч тон да 27. X. 32 году. „Савецкая Беларусь" на гэта піша: „Прычынай такога ганебнага ходу адгрузкі бульбы пралетарскім цэнтрам зьяўляецца ігнараваньне дырэктыў аб арганізацыі вывазу бульбы з поля ў часе ўборкі". Адным словам, туга ідзе выкачываньне бульбы з беларускай вёскі. Відаць, што ўжо няма чаго ўзяць ад і так ужо аблупленага селяніна.

### „З 29 дакладчыкаў на раён выехаў... 1"

Пад такім загалоўкам піша заметку „Зьвязда" з 28. X. 32 г. аб правядзеньні цэлае сыстэмы лекцыяў аб павышэньні ўраджайнасьці ў калгасах. Ясна, што ў сувязі з выездам толькі аднаго дакладчыка замест 29, лекцыі былі сарваны ў-ва ўсім Магілёўскім раёне.

### Беларуская кіно-вытворчасьць.

Як падае „Зьвязда" з 28. X. 32 г. апошні час наглядаецца буйны разрост беларускай кінэматаграфіі, якая, пачаўшы з фільму „Лясная Быль" паводле повесьці М. Чарота, праз пудоўна скампанаваныя фільмы, як „Ненавісьць", „Слава сьвету", „Заходні Фронт" дайшла да супэрфільму, першага гукавога поўнамэтражнага фільму на беларускай мове „Баём насустрач", які ставіць кіно-фабрыку Белдзяржкіно на адно з першых месц у сыстэме Саюзкіно, слаўнага на ўсім сьвеце з фільмаў высокае мастацкае вартасьці. Беларуская кіно-фабрыка дала цэлы рад здольных рэжысэраў, сцэнарыстаў, артыстаў, як: Кобец, Вольны, Губарэвіч, Тарыч, Корш і іншыя.

### У Слуцку расьце вінаград.

Як падае „Зьвязда" з 25. X. 32 г., аматар-агароднік у Слуцку Алесь Лягавы культывуе з вялікім паводжаньнем вінаград і валоскія арэхі. 7 кустоў вінаграду даюць яму каля 4 пудоў ягад, а дрэва валоскіх арэхаў да 5—6 пудоў ураджаю. Спробамі гэтымі ўжо зацікавіўся Народны Камісарыят Зямляробства.

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

## Беларусы у Латвіі.

### Гімназія ў Дзьвінску адратавана!

У выніку даўгое барацьбы ўсяго беларускага грамадзянства ў Латвіі з дзікім загадам міністра асьветы Кенінша прыступіць да паступовага ліквідаваньня Беларускае Дзяржаўнае Гімназіі ў Дзьвінску — Гімназія адратавана. Міністар узяў свой загад назад. Аднак, перамога беларусаў і лепшых элемэнтаў латышскага грамадзянства (сацыялістаў), падтрымліваўшых беларусаў у барацьбе з гэтай новай праявай латышскага нацыяналізму,—ня поўная: беларусы былі прымушаны згадзіцца прыняць за дырэктара латыша—кс. Чамана. Дасюлешні дырэктар Сахараў атрымаў эмэрытуру і выйшаў з гімназіі.

Беларускае грамадзянства, якое пайшло на гэткі кампраміс, слушна разважаючы, што дырэктар—часовы, а гімназія—рэч сталая, каторую трэба было канешне захаваць, —лічыць барацьбу ня скончанай. І трэба спадзявацца, што мо' ўжо на будучы год становішча дырэктара беларускае гімназіі займець ізноў беларус.

### Юбілей Купалы—Коласа.

Рыжская беларуская прыватная вячэрняя гімназія ўладзіла 29 кастрычніка абход падвойнага юбілею двух корыфэяў беларускае літэратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа, якім сёлета мінула па 50 гадоў.

## Беларусы ў Нямеччыне.

### „Барацьба".

У Бэрліне пачала выхадзіць беларуская часопіс пад назовам „Барацьба". Як заяўляе ў загалоўку Рэдакцыя, „газэта прысьвячана беларускаму нацыянальна-вызваленчаму руху", але на першым пляне фактычна стаўляе барацьбу соцыяльную, ідэалізуючы Саветы.

Першы нумар (за кастрычнік) выступае вельмі востра проці польскае дзяржаўнае палітыкі ў адносінах да беларусаў.

Паміж іншым, новая часопіс стараецца выкарыстаць імя Б. Тарашкевіча дзеля палітычнае акцыі ў Польшчы.

## Беларусы у Францыі.

### Беларуская работніцкая эміграцыя.

Як падае бэрлінская „Барацьба", ў Францыі працуе ад 30 да 40 тысяч белару-

Якуб Колас.

# Хаім Рыбс.

I.

Хаіма Рыбса выбралі завочна на гэту пасаду. Што гэта была за пасада, адразу і сам Хаім Рыбс ня мог сабе ўтлумачыць.

Чым кіраваліся члены сходу, выбіраючы Рыбса? Адны бралі на ўвагу сталасьць, пісьменнасьць Рыбса, а характар яго рукі, як ён зазначаў сам, быў вельмі прыгожы; другія бралі на ўвагу яго розум; трэція, пацьвярждаючы ўсё гэта, яшчэ дадавалі яго шырокае знаўства жыхароў, сярод якіх жыў стары крамнік Хаім Рыбс і на карысьць якіх цяпер павінен ён быў працаваць.

Сам Хаім Рыбс глянуў на свой выбар крыху з другога боку.

— Уй, місюгіны, рады запрагчы чалавека і ехаць на ім толькі дзеля таго, што ня быў на сходзе і ня мог, як мае быць, пабарабаніць языком.

Але як гэта навіна была прынесена суседам Іцкам Шпэралем, асобай прыватнаю, то Хаім Рыбс, крыху ўскіпеўшы, зараз і астыў і покі-што супакоіўся, хоць там, дзесь у сярэдзіне, і карцела тармасьлівая думка. Праўда, Рыбс пайшоў на двор тупаць каля свае гаспадаркі, і скора неспакойная думка зьнікла з памяці.

Пад вечар таго-ж самага дня Хаім Рыбс, прыбраўшы свой дворык і прыпыніўшы гаспадарскія справы, сядзеў у сваёй краме...

Эх, і крамка гэта цяпер была далёка ня тая, якою была яна, ну, сказаць, гадоў пяць таму назад. Тагды яна была паўнютка ўсялякага тавару, і народ снаваў тут, як пчолы каля вульля. А між тых чатырох старых хвой, што стаяць проціў крамы, карміліся, бывала, сялянскія коні, і жоўты пясок пад хвоямі быў заўсёды ўтоптаны конскімі капытамі і зацярушаны сенам і канюшынаю.

Цяпер і яны, гэтыя хвоі, асірацелі, і ніхто з даўнейшых знаёмых больш не прыпыняўся каля іх.

Хаім Рыбс сядзеў на тубарэце каля стала, на якім калісь зьвінелі і бразгацелі срэбныя і залатыя манэты, сядзеў і аб чымся думаў.

Аб чым?

Голыя сьцены крамы, пустыя паліцы, што даўней угіналіся ад цяжару наваленага тавару, а цяпер дзе-ні-дзе стаялі парожныя і заржавелыя бляшанкі і іншая дрэнь, пазіралі тужліва.

Ад іх патыхала запусьценьнем, няпрытульнасьцю. А розныя выні́кі і пагрозы, што павісьлі над галовамі местачковага жыхарства? А гэты агульны заняпад жыцьця? Хіба можа ўсё гэта даваць страву для добрых думак?

Хаім Рыбс у вадказ сваім думкам часта глыбока ўздыхаў.

— І эхе-хе-хе!

Рыбс сядзеў, паставіўшы локці на стол, падпёршы рукамі скіўіцы, і думаў. Зірнуўшы ў зашкляны верх дзьвярэй, Рыбс убачыў пасыльнага ад мясцовага „Спаўкому". Ен якраз шоў да Хаіма, і праз колькі хвілін дзьверы здрыгануліся, заскрыпелі сваім асаблівым бразгатам, да якога прылучыўся гук няшчыльна закітаваных шыбак.

— Добры вечар, пане Рыбс!

— Добры вечар, Язэп! Што скажаш?

— А вот, расьпішыся тут.

Язэп разгарнуў кніжку, дзе ляжала паперына, на якой значылася: „Квартальнаму мястэчка Новы Стан т. Хаіму Рыбсу", падаў яму гэту паперку і ткнуў пальцам у тое месца кнігі, дзе павінен быў расьпісацца Хаім Рыбс.

Паводле таго, як чытаў Хаім Рыбс атрыманую паперку, твар яго мяняўся, бровы ссоўваліся ніжэй, вочы рабіліся злымі, і, здаецца, самі сабой ускідаліся плечы.

Але гэта было нядоўга, і твар яго зноў прасьвятлеўся, бы той пакат гары, з якога толькі што зьбег цень ад хмары. Хаім Рыбс падняў вочы на Язэпа, глядзеў доўга, і губы яго разышліся ў усьмешку. Але што гэта была за ўсьмешка! Гэта была адна гіронія, адзін сарказм!

— Ну, зусім павар'яцелі! — спакойна сказаў Хаім Рыбс і засьмяяўся.

— Ой, місюгіне, місюгіне!

— От галава! — прамовіў Язэп: — ёсьць аб чым думаць, чым клапаціцца. Цяпер, брат, так: сягоньня зранку ты проста Хаім Рыбс, пад вечар ты квартальны, заўтра загадчык прадкому, пазаўтра—ляскому, а там—невядома... Часы, брат, такія... Нічога, брат, паслужы!

— Квартальны! — як-бы да сябе самаго прамовіў Хаім Рыбс і засьмяяўся доўгім сьмехам, і гэты сьмех скончыў тым, што замахаў абедзьвюма рукамі, як-бы атрасаючы і адкідаючы ад сябе гэтага квартальнага.

— Хася! Хаська! — гукнуў ён сваю жонку.

У краму ўвайшла Хася.

— На, пабач!

Хася прачытала паперку і зірнула на Хаіма.

— Ха-ха-ха!—рагатаў Хаім Рыбс.

скіх эмігрантаў-работнікаў з Заходняе Беларусі. Працуюць яны часткова на ральлі, часткова ў фабрыках. Варункі працы іх вельмі благія. Францускія вярбоўшчыкі рабілі з імі на бацькаўшчыне кантракты, вызначаючы плату на 30—40%% ніжэйшую, чым дастаюць некантрактовыя работнікі ў Францыі. Працуюць усюды больш за 8 гадзін. Лекарскае помачы ня маюць, хіба што здарыцца пры працы. Асабліва цяжка жывецца беларускім работніцам. Дарагоўля жыцьця ўсьцяж расьце, а заробкі малыя. Да таго-ж няведаньне францускае мовы зусім аддае работнікаў на ласку іх гаспадароў. Арганізацыі беларускае там ніякае няма.

# З усяго сьвету.

## Крывавыя забурэньні ў Жэнэве.

У мінулым тыдні ў Жэнэве, у самым цэнтры міжнароднага жыцьця,—так сказаць, „сталіцы Лігі Нацыяў“, зусім неспадзявана выбухлі крывавыя забурэньні, у выніку якіх лягло трупам больш дзесятку асоб, а цяжка раненых аказалася некалькі дзесяткоў.

Выбух адбыўся ў рэзультаце ўсьцяж нарастаўшае ў апошні час варожасьці паміж „буржуазнай“ і „соцыялістычнай“ Жэнэвай. 9 лістапада правіца „буржуазнай Жэнэвы“, так-званая „Нацыянальная Унія“, наладзіла мітынг, які меў вельмі востры проці-работніцкі характар. Зараз-жа наладзілася контрдэманстрацыя з боку соцыялістаў. Далучыліся да іх і камуністы, якія хутка захапілі кіраўніцтва натоўпам у свае рукі і кінулі работнікаў на паліцыю і выкліканае войска. Першы атрад войска (навабранцаў) быў лёгка разброены работнікамі, але зараз-жа падыйшлі старэйшыя вайсковыя часьці, якія далі запраўдны бой работнікам, пусьціўшы ў ход навет кулямёты. Толькі ўначы ўдалося ўладам апанаваць палажэньне і наладзіць парадак у месьце. Цікаўна, што акурат такое самае выступленьне соцыялістаў у саюзе з камуністамі дый у гэты-ж самы час мела месца і ў другім горадзе Швэйцарыі, у Лёзаньне.

Характэрна, што некаторыя жаўнеры ня толькі адмовіліся страляць у работнікаў, але і бунтаваліся, крычучы да страляўшых: „забойцы, забойцы“...

Як ні глядзець на гэтыя здарэньні, яны паказалі, што навет у такім спакойным і зраўнаважаным пункце сучаснай Эўропы „соцыяльная раўнавага“ аказалася вельмі нястойкай...

## Вынікі выбараў у Нямеччыне.

Рэзультаты новых выбараў у нямецкі парлямант можна лічыць у роўнай меры перамогай канцлера Папэна і яго „баронаў“, як і—камуністаў... У новым парляманьце аказалася яшчэ менш магчымасьці, чым у папярэднім, стварыць якую-небудзь большасьць. Гітлераўцы страцілі 2 мільёны галасоў і 35 мандатаў у парляманьце. Камуністы здабылі 13 новых мандатаў.

Пасьля выбараў Папэн запрапанаваў усім правым і цэнтравым партыям (навет сацыял-дэмакратам...) стварыць „урад нацыянальнага аб'яднаньня“ — пад яго кіраўніцтвам. Але на гэты заклік адазваліся прыхільна толькі нямецкія эндэкі: рэшта партыяў, навет гітлераўцы, адказалі рашучай адмовай.

## Першая польская гімназія ў Нямеччыне.

У м. Бытоме, ў нямецкай Сілезіі (Верхняй) адчынена першая польская гімназія. Нямецкая нацыяналістычная прэса аж пеніцца з абурэньня на гэтую „недарэчную уступку палякам“. З свайго боку польская прэса слушна кажа, што „прымаючы ад немцаў гэтую гімназію, як тое, што палякам належыцца па праву, трэба голасна крычаць на ўвесь сьвет аб тым, што **гэтая адна гімназія дадзена на паўтара мільёна палякоў у Нямеччыне**“...

Можам дадаць—для параўнаньня,—што на 2 з паловай мільёны беларусаў у Польшчы існуюць толькі дзьве беларускія гімназіі...

## Англія і Францыя ня плацяць даўгоў Амэрыцы.

Англійскі і францускі ўрады зьвярнуліся да Амэрыкі з заявай, што ім цяжка заплаціць чарговую „рату“ на пакрыцьцё ваенных пазыкаў. Францыя павінна заплаціць 20 мільён. даляраў, Англія—90 міл.

Што Англія перажывае вялікі грашовы крызіс, гэта пэўна; але што Францыя ня можа заплаціць 20 мільён. дал., у гэта напэўна ў Амэрыцы не павераць. Толькі-што Банк Францыі апублікаваў нябывалую, „фантастычную“, як піша сама француская прэса, лічбу яго запасу золата, дайшоўшую да 83 мільярдаў франкаў. Дый толькі-што Францыя—ў часе гутарак аб разбраеньні на сушы і на моры — распачала будову новага браняносца, што выклікала страшэннае абурэньне ня толькі ў Амэрыцы, але і ў Англіі.

## Прэзыдэнцкія выбары ў Паўночна-Амэрыканск. Штатах.

8 лістапада адбыліся ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах выбары, але яшчэ не самога прэзыдэнта рэспублікі, а толькі тых спэцыяльных выбаршчыкаў-дэлегатаў, якія вясной маюць ужо выбраць прэзыдэнта. Але дзеля таго, што кожны выбаршчык атрымлівае абавязкавы наказ ад выбраўшай яго мясцовай арганізацыі адной з двух канкураваўшых між сабой вялікіх партыяў Амэрыкі: рэспубліканцаў і дэмакратаў, дык лічба адных і другіх выбаршчыкаў наперад вырашае ўжо і выбар прэзыдэнта.

Перамога дасталася дэмакратычнаму кандыдату Рузвэльту. З агульнае лічбы 531 выбаршчыка дэмакраты маюць 472 дэлегатаў, а рэспубліканская партыя—толькі 59.

Праўду кажучы, дэмакраты мала чым у сваёй праграме розьняцца ад рэспубліканцаў, дык нейкай рашучай зьмены ў палітыцы Амэрыі спадзявацца ад замены Хувэра на Рузвэльта ня трэба. Але зьмена ўсё-ж ведамая будзе: адносна да Эўропы правадыр дэмакратаў Рузвэльт павінен будзе ў пэўнай меры злагодзіць лішне ўжо эгоістычна-эксплёататарскі курс палітыкі амэрыканскага капіталу.

# ХРОНІКА.

— **Беларускі аб'ездны тэатар.** У Вільні з'арганізаваўся беларускі аб'ездны тэатр, які — пад кіраўніцтвам грам. А. Міхалевіча — мае́цца зрабіць рад беларускіх спэктакляў на правінцыі. Першы выезд адбудзецца ў будучым тыдні ў **Смаргоні**, дзе вызначаны два спэктаклі: **26 лістапада (субота)** — „Дзядзька Якуб“ і „Шустрая бабулька“, а **27-га (нядзеля)**—„Страхі жыцьця“ Ф. Аляхновіча.

— **Вечар на карысьць незаможных вучняў.** На першым пасяджаньні Прэзыдыуму Бацькоўскага Камітэту пры Віл. Беларускай Гімназіі 8 лістапада пастаноўлена было ўладзіць 7-га сьнежня канцэрт-вечар на карысьць незаможных вучняў. Выбрана арганізацыйная камісія і апрацована праграма канцэрту, пасьля якога маюць адбыцца танцы. У канцэрце выступіць беларускі хор. — Уваход на вечар будзе толькі на падставе запросінаў.

II.

— Квартальны Рыбс тут жыве?

— Тут! А што вам трэба?

— А дзе ён?

— Ну, ён зараз прыдзе. Я паклічу яго. —І маладая, высокая дзяўчына, дачка Хаіма Рыбса, вышла на двор клікнуць „квартальнага“. Малады хлопец у фрэнчы, з чырвонаю гвяздаю, пацёр пальцамі пад носам, дзе былі астаўлены брытваю невялічкія кавалачкі вусоў, як дзьве плямкі пад носам табаканюха, агледзіў галіфэ і кінуў грозны погляд навакол. Як відаць, ён быў асобны паўнамоцны і сваю місію лічыў самаю важнаю на сьвеце, перад якою не павінна быць і не магло быць ніякіх перашкод.

Прышоў Хаім Рыбс.

— Ну, што вам трэба?

— Вы квартальны?

— Ну, я.

— Праз пятнаццаць мінут дастаць мне падводу да мястэчка Вухналі! Вось мой мандат.

— Ня турбуйцеся, — замахаў рукамі Хаім Рыбс:—я і так вам веру.

Малады і зухаваты паўнамоцны, здавалася, быў крыху абражан такою няўвагаю квартальнага: як гэта ён не пацікавіўся мандатам? Мандат ясна зазначае, хто такі патрабуе падводу.

— Дык будзе падвода? каб быць пэўным.

— А вы лепш зрабілі-б, каб пайшлі пехатой. Гэта было-б хутчэй.

— Ня ваша гэта дзела, як будзе хутчэй... Я патрабую падводу, і вы назначце яе. Праз пятнаццаць мінут каб мне была падвода! Вось мой мандат!

— Ну, і на што мне ваш мандат? Раз вы прышлі, значыцца, вам падвода трэба... Ну, добра: падвода будзе.

— І не пазьней, як праз пятнаццаць мінут,—дадаў паўнамоцны, выняўшы гадзіньнік і зірнуўшы на прыгожую дачку квартальнага.

— Падводу прышлеце мне да Абеля Цацкіна.

— Ну, добра—падвода будзе.

Гэты першы кліэнт новага квартальнага вышаў, а Хаім Рыбс усьміхнуўся яму ўсьлед і махнуў рукою.

— Мандат!—прамовіў ён, — сядзь на свой мандат і едзь куды хочаш.

Хаім Рыбс павярнуў у сваю каморку і, адкінуўшы коўдру, прылёг на пасьцель. Ён пастанавіў цьвёрда змагацца, каб адкаснуцца ад свайго квартальніцтва. Не прайшло і пятнаццацёх мінут, як Хаім Рыбс спаў смачным сном.

Малады паўнамоцны пачынаў траціць цярпеньне. Разоў дваццаць пагляда́ў ён у вакно, разоў дзесяць выходзіў на двор і колькі разоў хапаўся за свой портфэль. Выпадковыя падводы праяжджалі каля хаты Абеля Цацкіна і ўводзілі ў зман напружана чакаючага ад квартальнага падводы маладога паўнамоцнага. Адзін раз ён навет запытаў:

— Ад квартальнага падвода?

— Га?—спытаў чалавек з каламажкі.

— Чарговая ці што падвода? Не квартальны назначыў цябе?

— А чорт яго ведае, твайго квартальнага,—адазваўся чалавек, палічыўшы, што з яго сьмяюцца, і пагнаў кабылу.

— Тфу! што за пракляты сабатаж! — вылаяўся малады паўнамоцны, схапіў шапку, портфэль і злосна паімчаўся да квартальнага.

На гэты раз дзьверы грукнулі яшчэ мацней, яшчэ дзічэй забрызгацелі слаба закітаваныя шыбкі.

— Дзе квартальны?

Хаім Рыбс павольна ўзьняў галаву, шырока расчыніў рот і смачна пазяхнуў.

— Чаму няма дагэтуль падводы?

— Як?—зьдзівіўся Рыбс: — яшчэ няма падводы? Ну, я-ж вам казаў, што без падводы вы скарэй былі-б там, дзе вам трэба.

— Чорт-бы вас тут пабраў з вашымі размовамі! Мне трэба падвода, чуеш? Дзе падвода? Вось мой мандат. Знаць нічога не хачу! Гэта сабатаж!

— Ну, чаму гэта сабатаж? І што гэта такое „сабатаж“? Чаму вы так кажаце?... Слухайце, каб я быў Майсей, я-б падышоў да гары і сказаў: „Гара, дай вады!“ і яна-б дала вады. Але-ж я чалавек просты, і гара мяне не паслухае, і дарма вы злуяцеся. Каб гэту падводу я мог выламаць з свайго калена,—Хаім Рыбс узьняў правую нагу і пачаў згінаць калена:—я-б яе выламаў і сказаў-бы: „Вось вам падвода, сядайце, калі ласка, і едзьце“...

— Дурак ты, ці заўзяты сабатажнік? Тфу, прападзі ты! — малады хлопец злосна павярнуўся, плюнуў і вышаў вон.

— Хася, Хаське!—зьвярнуўся Рыбс да жонкі:—ведаеш што? Ён ужо больш ня прыдзе сюды.

І вясёлая ўсьмешка асьвяціла твар Хаіма Рыбса.

(Дакончаньне будзе).

